

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№14 (196) ВЕРАСЕНЬ 2015 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## "КІРАВАНАЯ ДЭМАКРАТЫЯ"

**У передвыбарнай кампаніі ўдзельнічаюць чатыры прэтэндэнты на пасаду кіраўніка краіны. Аднак ці забяпечылі цяперашнія ўлады краіны свабодныя і роўныя магчымасці для усіх кандыдатаў?**

Як вядома, для ўдзелу ў прэзыдэнцкай кампаніі было зарэгістравана чатыры кандыдаты ў прэзыдэнты: Аляксандр Лукашэнка, Сяргей Гайдукевіч, Таццяна Караткевіч і Мікалай Улаховіч. Паводле артыкула 73. Выбарчага Кодэкса аб роўнасці правоў і абавязкаў кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, усе кандыдаты на пасаду кіраўніка дзяржавы валодаюць роўнымі правамі і нясуць роўныя абавязкі. Апроч таго, кандыдаты не маюць права выкарыстоўваць перавагі свайго службовага становішча ў інтарэсах абрання. Закон усталёўвае, якія дзеянні варта кваліфікаваць як выкарыстанне гэтак званага "адміністрацыйнага рэсурсу".

Перавагі службовага становішча ў першую чаргу датычыцца прыцягнення асоб, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні ці іншай службовай залежнасці, для ажыццяўлення ў працоўны час дзейнасці, якая спрыяе вылучэнню або абранню. Выкарыстанне памяшканняў, займаных дзяржаўнымі органамі, арганізацыямі, для ажыццяўлення дзейнасці. Выкарыстанне тэлефоннай і іншых відаў сувязі, аргтэхнікі, прызначаных для забеспячэння функцыянавання дзяржаўных органаў або арганізацый.

Бясплатнае або на льготных умовах выкарыстанне транспартных сродкаў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці.

Пры парушэнні патрабаванняў гэтага артыкула Цэнтральная камісія, акруговая, тэрытарыяльная выбарчая камісія мае права адмовіць у рэгістрацыі кандыдата або адмяніць рашэнне аб яго рэгістрацыі.

Інакш кажучы, не выпадкова закон аб выбарах прэзідэнта дыктуе канчатковазвесціна нішто магчымасць кандыдатаў выкарыстоўваць сваё службовае становішча і службовыя паўнамоцтвы - так званы адміністрацыйны рэсурс. Але ж даруйце, паважаныя выбаршчыкі, якім чынам адмовіцца ад перавагі свайго службовага становішча галоўны дзейсны кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка? Як ён можа адмовіцца ад "царскіх паўнамоцтваў" на карысць роўных магчымасцяў для сваіх канкурэнтаў, калі ён валодае усёй краінай падчас выбачай кампаніі, яму падпарадкоўваюцца уся чыноўніцкая раць – вертыкаль улады, створаная ім самім? Калі ён асабіста прызначае ўсіх начальнікаў у Беларусі, у тым ліку і Цэнтрвыбаркам на чале з Ярмошынай, правіць усімі дзяржаўнымі СМІ, Нацбанкам, сілавікамі, войскам ў якасці галоўнакамандуючага, прадпрыемствамі і калгасамі? І ён будзе адмаўляцца ад такога "адміністратыўнага рэсурсу? Прабачце, але гэта проста смешна. Для гэтага Лукашэнку небходна як мінімум звольніцца з працы: падаць у адстаўку на перыяд выбарчай кампаніі, а паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы перадаць, напрыклад, прэм'ер-міністру. Уявіце сабе фантастычную карціну: Лукашэнка некалькі месяцаў не працуе, а зноў, з самага нуля, як просты старшыня калгаса пачынае змаганне за ўладу толькі передвыбарчымі клопатамі са сваімі даверанымі асобамі за пост прэзідэнта. Як просты кандыдат, без сотняў узброенных асабістых целаахоўнікаў на роўных умовах разам з Караткевіч, Гайдукевічам і Улаховічам. Выкарыстоўвае некалькі хвілінаў на БТ раз у месяц, як і усе канкурэнты, стаіць каля варот завода ў надзеі, што дырэкцыя яго туды пусціць выступіць перад рабочымі, пасылае сціплы артыкул у дзяржаўныя газеты. І затым абураецца, што выступ на БТ быў у запісе, абрэзаны да непазнавальнасці, на завод так і не пусцілі, а з артыкула выразаны "няправільныя словы", бо так захацеў рэдактар.

Народ ужо зразумеў, што дэмакратычнага закона аб выбарах у Беларусі няма. Няма ніякіх рэальных палітычных правоў для новых, больш таленавітых і прагрэсіўных лідэраў. Выбарчая кампанія на Беларусі па-ранейшаму пабудавана на аўтарытарных прынцыпах, і законы падагнаны пад аднаго чалавека і яго прыхільнікаў. Не распрацаваны механізмы передачы ўлады, няма дэмакратычнай працэдуры замены старага кіраўніка дзяржавы на новага. Калі прыглядзецца, становіцца зразумела, штосвабодаілібералізацыя – строга падкантрольныя ўладам, а роўныя магчымасці – не больш за прафанацыю.

Цяперашняя кампанія праходзіць настолькі вяла і дэпрэсіўна, што часам здаецца – выбараў у краіне ўвогуле няма, а людзі не вераць ужо нікому. Многія адкрыта кажуць, што ад нашых галасоў нічога не залежыць. Нездарма старшыня ЦВК Лідзія Яромошына расказала аб сваім "страшным сне". Яна ўпэўненая, што на сённяшні дзень галоўнае ў выбарах не вынік, а яўка. У эфіры СТВ Лідзія Ярмошына адказала на пытанне пра тое, наколькі сур'ёзныя апасенні, што на прэзідэнцкіх выбарах будзе нізкая яўка.

"Зразумела, такія засцярогі заўсёды ёсць. Гэта мой, напэўна, страшны сон. Дарэчы, мяне хвалюе больш за ўсё нават не вынік выбараў, а ці прыйдзе выбаршчык. Гэта з'яўляецца самым галоўным".

Пасля такога шчырага прызнання яшчэ хтосьці сумняваецца, якімі будуць вынікі "выбараў"?

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

РЫНАК ПРАЦЫ

## ВАКАНСІІ Ў ВЕРАСНІ

**11-га верасня абнавіўся спіс вакансій на сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Цяпер тут па стану на 28 верасня прапануюць 29 вакансій на 44 вольныя месцы.**

Болей за ўсіх вакансій прапануе сельская гаспадарка раёна. У сельгаспрадпрыемстве "Ульскі" запрашаюць на працу галоўнага інжынера з вышэйшай адукацыяй. Абяцаюць аклад каля 4 мільёнаў рублёў. Яшчэ маюцца вакансія галоўнага бухгалтара (вышэйшая, 5 млн. 560 тысяч) і галоўнага ветэрынарнага ўрача (вышэйшая 5 млн. 560 тыс.) Ёсць свабодные месца і для інжынера па ахове працы (адукацыя вышэйшая, аклад – 2 млн. 960 тыс. ) Звяртацца па телефонах: 8 02130 і 3 87 41.

"Шумілінскі райаграсэрвіс" прапануе пасаду галоўнага інжынера (вышэйшая, аклад – 4 млн.), аграному (аклад – 2,5 млн.). Таксама патрабуецца аператар машыннага даення (заробак 2,5 млн.) Тэл. 8 02130 і 4-11-76

Прадпрыемству "Ляжні" неабходны два жывёлаводы (агульная базавая, заробак – 2,5 млн), токар з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй, заробак – 2,5 млн. Тэл. 8 02130 і 3 45 41.

"Сіроцінскі" чакакае на працу двух аператараў машыннага даення (3 млн.) Тэл. 8 02130 і 3 35 10.

У ААТ "Прыазёрны мір" запрашаюць на работу галоўнага бухгалтара (вышэйшая, 5 млн. 320 тыс.)Тэл. 8 02130 і 5-01-30.

Па-ранейшаму адчуваецца дэфіцыт кадраў у Шумілінскай раённай бальніцы. Сюды патрабуецца 12 спецыялістаў: сямёра фельчараў з сярэднеспецыяльнай адукацыяй (5 млн.), чатыры ўрачы (стаматолаг, анестэзіёлаг, афтальмолаг, эндакрынолаг, усім аклад па 4,5 млн), медыцынская сястра-спецыяліст (ярэдняя спецыяльная 3,5 млн. ) Тэл. 8 02130 і 4-15-07

"Белдзяржстрах" наймае траіх страхавых агентаў (в. Добея-1, г.п.Обаль-1, Ковляковский с / с-1), сярэдняя спецыяльная 2,2 млн. Тэл. 8 02130 і 4-19-52.

У аддзел адукацыі і спорту патрабуецца музычны кіраўнік, сярэдняя спецыяльная, 2,8 млн.

У Тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва знойдуць працу тры сацыяльныя работнікі, агульная сярэдняя 2 млн. 350 тыс. Тэл. 8 02130

Жыллёва-камунальная гаспадарка прадаставіць работу машыністу (качагар) кацельні (4-5 разрад), з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй, зменны графік, заробак 3 млн. руб.

У Сіроцінскім сельсавеце маецца пасада галоўнага бухгалтара з вышэйшай адкуцыяй і акладам у 2,6 млн. руб. Тэл. 8 02130.

Райбыткамбінат шукае галоўнага бухгалтара, вышэйшая, 4 млн., прыёмшчыка заказаў, 2,2 млн. (аграгарадок Кардон), станочніка дрэвaапрацоўчых станкоў (4-5 разрад), прафесійна-тэхнічная, 2,6 млн. Тэл. 8 02130

Аддзел спорту і турызму Шумілінскага райвыканкама запрашае педагога-псіхолага 2,9 млн. т. 8 02130 і 4-22-37

Шумілінскаму райпажыўсаюзу патрабуюцца таваразнаўца (вядучы таваразнаўца) 2,5 млн.

Прадавец, прафесійна-тэхнічная, 3,5 млн., бухгалтар (бухгалтар-рэвізор), сярэдняя спецыяльная, 2,6 млн. Тэл 8 02130 і 4-16-64.

З усіх відаў вакансій самы высокі заробак прапануюць галоўнаму бухгалтару - 5 млн. 560 тысяч у КУГСП "Ульскі". Найніжэйшыя на сённяшні дзень зноў такі ў райбыткамбінаце прыёмшчыкам заказаў - 2,2 млн.

**Уладзімір Амбросаў**

ЗА ЦВЯРОЗАСЦЬ!

## ДЭКРЭТЫ П'ЯНСТВА НЕ СПЫНЯЮЦЬ

**Трывожныя лічбы паведаміў раённы нарколаг В. Багдановіч: сёння на ўліку ў нарколага стаіць 66 абавязаных асоб, з іх 52 жанчыны.**

Каб бараніць дзяцей ад нядбайных бацькоў, выдалі Дэкрэт № 18, з дня прыняцця якога прайшло ўжо амаль дзевяць год, не страчвае сваёй актуальнасці.

Аднак рэальнае жыццё ўносіць у планы чыноўнікаў свае карэктывы. Па ўсяму відаць, што гэтымі адміністратыўнымі метадамі далейшы рост распада сем'яў не спыніць.

На апошнім пасяджэнні раённага каардынацыйнага савета, намеснік старшыні райвыканкама А. М. Зайцаў быў вымушаны прызнаць, што іншым разам трэба ратаваць дзяцей ад іх уласных бацькоў. Зараз прадстаўнікі выканаўчай улады не бачаць іншага выйсця, калі гора-бацькі ў п'яным чадзе забылі, што ў іх ёсць дзеці.

Папярэджанне падобных фактаў, працаўладкаванне абавязаных асоб, кампенсацыя гэтымі асобамі дзяржаўных

*(працяг на стар. 2)*

ЗА ЦВЯРОЗАСЦЬ!

(пачатак на стр. 1)

расходаў на ўтрыманне іх дзяцей, барацьба з прагуламі, з п'янствам як першапрычынай усіх бед – гэтыя пытанні былі ў полі зроку ўдзельнікаў каардынацыйнай нарады.

Так, на сённяшні дзень ужо на ўліку ў нарколага стаіць 66 абавязаных асоб, з іх 52 жанчыны. І сітуацыя працявае толькі пагаршацца. Падчас апошняга міжведамаснай група "Сям'я без насілля" наведала сем'і ў Лаўжанскім сельсавеце. "Вызначыліся" дзве маладыя маці з аграгарадка Мікіціха – пілі, а да сваіх дзетак справў не было. На нядбайных маці былі складзены пратаколы, вынесены папярэджанні.

Варта адзначыць, што некаторыя жанчыны дапіліся да таго, зусім згубілі мацярынскі інстынкт. Гора-маці не працавалі, пілі разам з сужыцелямі, на дзяцей забыліся. Прычым жанчыны нават не разумелі, чаму ў іх адабралі дзяцей, ды і саму гэту працэдуру успрынялі раўнадушна. Цяпер ім ніхто то не замінае працягваць разгульнае жыццё…

**Ян Вайтовіч**

ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

# ПЕРАДВЫБАРНАЯ АГІТАЦЫЯ

**Шумілінскія чыноўнікі і дэпутат Палаткі Уладзімір Шыцько просяць працоўныя калектывы падтрымаць Лукашэнку.**

У Беларусі распачата передвыбарная агітацыя. Таму ў Шумілінскі раён завітаў дэпутат Палаты представнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шыцько. Дэпутат адразу паехаў на Обальшчыну, дзе спачатку сустрэўся з калектывамі Обальскай школы, а затым наведаў Обальскі керамічны завод.

Ад шумілінскіх чыноўнікаў у агітацыйную кампанію за Лукашэнку актыўна ўключылася і старшыня райсавета Ірына Новікава. Яна выступіла перад прысутнымі ў школе, азнаёміўшы іх з сацыяльна-эканамічным развіццём Шумілінсчыны.

У сваю чаргу Уладзімір Шыцько азнаёміў працоўны калектыў Обальскага завода з сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй у краіне. Пры гэтым расказаў, над чым працуюць дэпутаты ў парламенце, якія праблемы стаяць перад сістэмай адукацыі і ў прамысловасці краіны.

Дэпутат пералічыў усе тыя дасягненні за 20 апошніх гадоў кіравання Аляксандра Лукашэнкі і параіў "падтрымаць дзеючага Прэзідэнта ў час выбараў". "Кожны павінен цаніць тое, што створана ў нашай Беларусі за апошнія 20 год" – падкрэсліў дэпутат, бо сёння Беларусь – дастойная, суверэнная, моцная і незалежная краіна, і мы разам адказваем за яе ўмацаванне і развіццё.

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# СПРАБАВАЎ ЎТАПІЦЬ ГУМАВУЮ ЛОДКУ

**Два адміністрацыйныя пратаколы склалі на браканьера на сажалцы ў пасёлку Обаль, які спрабаваў схаваць сляды сваёй дзейнасці ад супрацоўнікаў Гарадоцкай міжрайінспекцыі.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету 19 верасня работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі на сажалцы каля пасёлка Обаль ў Шумілінскім раёне затрымалі парушальніка, які задбываў рыбу незаконым спосабам - стаўной сеткай. Убачыўшы дзяржінспектараў, мужчына паспрабаваў схаваць сляды правапарушэння - ўтапіў сетку і таксама хацеў утапіць гумовую лодку.

У дачыненні да затрыманага складзены адразу два пратаколы: па ч. 1 арт. 15:35 (замах на здабычу рыбы забароненымі прыладамі) і па арт. 23.4 (непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы) Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь. Калі па першаму выпадку правапарушэння штрафныя санкцыі пачынаюцца ад 10 базавых велічынь, то за непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы штрафныя санкцыі пачынаюцца ад 20 базавых велічынь - з 3 млн. 600 тыс. рублёў.

# НЕПРАЦУЮЧЫ ВАНДАЛ

**Устаноўлена асоба жыхара Шуміліна, які адпрацоўваў сваю ўдаласць на бетонным плоце.**

У дачыненні да непрацуючага 35-гадовага мясцовага жыхара, распачата крымінальная справа па ч. 1 арт. 339 КК. Мужчына з хуліганскіх меркаванняў ударамі ног пашкодзіў дзве панэлі дэкаратыўнай бетоннай агароджы .

Чарговы акт вандалізму адбыўся ў раённым цэнтры, прычыніўшы шкоду жыллёва-камунальнай гаспадарцы ў суме 667 тыс. рублёў.

**Сяржук Горкі по зводках УУС**

ПРАКУРОРСКІ НАГЛЯД

# КАНТРОЛЬ ЗА ДЗІЦЯЧЫМІ ПЛЯЦОЎКАМІ

**Органы пракуратуры Віцебскай вобласці выявілі шэраг парушэнняў заканадаўства ў Шумілінскім раёне, накіраваных на забеспячэнне бяспекі дзяцей у летні перыяд.**

Пра гэта паведаміла памочнік пракурора вобласці па наглядзе за выкананнем заканадаўства аб непаўналетніх і моладзі Ірына Тарасевіч.

Пракурорскія работнікі вобласці ў траўні-жніўні бягучага года правялі маніторынг забеспячэння бяспечнага знаходжання дзяцей у дзіцячых аздараўленчых арганізацыях, адпаведнасці патрабаванням бяспекі дзіцячых гульнявых пляцовак, школьных і грамадскіх стадыёнаў. Акрамя гэтага, было праведзена абследаванне патэнцыйна небяспечных для дзяцей аб'ектаў, праверана арганізацыя вольнага часу непаўналетніх, а таксама выкананне патрабаванняў заканадаўства аб працы пры працаўладкаванні непаўналетніх.

Маніторынг паказаў, што ў большасці выпадкаў аздараўленчыя ўстановы належным чынам падрыхтаваныя да знаходжанні дзяцей. Аднак асобныя парушэнні заканадаўства былі ўстаноўлены. У прыватнасці, не былі прыведзены ў парадак тэрыторыі лагераў, не прыдатныя для эксплуатацыі дзіцячыя атракцыёны, выяўлены парушэнні санітарна-гігіенічных нормаў і правілаў, а таксама патрабаванняў пажарнай бяспекі.

Таксама праблемным застаецца пытанне забеспячэння бяспекі дзяцей на гульнявых пляцоўках населеных пунктаў вобласці. Парушэння патрабаванняў заканадаўства па іх змесце і эксплуатацыі выяўлены ў Віцебску, Наваполацку, Бешанковіцкім, Браслаўскім, Віцебскім, Глыбоцкім, Гарадоцкім, Докшыцкім, Дубровенскім, Мёрскім, Аршанскім, Полацкім, Пастаўскім, Расонскім, Сененскім, Талачынскім, Чашніцкім і Шумілінскім раёнах. У многіх выпадках гульнявое абсталяванне пашкоджана, неналежным чынам замацавана, на пляцоўках не скошана трава, пясочніцы ня засыпаныя пяском, засмечаныя дзіцячыя збудаванні і самі пляцоўкі.

Таму ў мэтах выканання пратакола міжведамаснага нарады пракуратуры Віцебскай вобласці і Віцебскага аблвыканкама па пытаннях папярэджання гібелі дзяцей мясцовым органам улады было даручана ў самыя кароткія тэрміны сфарміраваць пералік патэнцыйна небяспечных аб'ектаў і месцаў знаходжання непаўналетніх. Аднак ў адміністрацыях раёнаў Віцебска і Лепельскім райвыканкаме на момант абследавання такія спісы адсутнічалі.

Асаблівая ўвага пракуратуры надала Сенненскай раёну, дзе гэтым летам адбылася трагедыя - у чэрвені ў штучным вадаёме патанулі тры малалетніх дзіцяці (дзеці каталіся на самаробным плыце). Устаноўлена, што дадзены вадаём фактычна з'яўляецца доўгі час не выкарыстоўвальным безгаспадарным аб'ектам, якія прадстаўляюць пагрозу для жыцця і здароўя людзей. У берагоў вадаёма размешчаны небяспечныя адхоны, значная частка берагоў з рэзкімі абрывамі вышынёй да паўтары метраў, падыходы да вадаёма зараслі травой і хмызнякамі. Да таго ж у пашпарт Сенненскага раёна аб патэнцыйна небяспечных аб'ектах ўказаны штучны вадаём не ўключаны, нягледзячы на тое, што ён прадстаўляў відавочную пагрозу не толькі для дзяцей, але і для дарослых. Абследаванне вадаёма таксама не праводзілася.

Адзінкавыя парушэнні заканадаўства па фарміраванні студэнцкіх атрадаў, арганізацыі працы непаўналетніх выяўлены ў Глыбоцкім, Докшыцкім і Аршанскім раёнах.

У сувязі з выяўленымі парушэнні заканадаўства, накіраванага на забеспячэнне бяспекі дзяцей, пракурорамі вынесена больш за 50 актаў пракурорскага нагляду, па выніках разгляду якіх прыняты меры па ліквідацыі выяўленых парушэнняў, прычын і ўмоў, ім спрыяюць, вінаватыя службовыя асобы прыцягнуты да ўстаноўленай заканадаўствам адказнасці.

**Ян Вайтовіч**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ДАПАМОГА ПРАЗ ГУМАНІТАРНЫЯ ПРАЕКТЫ

**У вобласці за апошнія гады рэалізавана 140 гуманітарных праектаў сацыяльнай накіраванасці, у тым ліку і ў Шумілінскім раёне.**

Усяго было рэалізавана праектаў з прыцягненнем больш за 7 млрд рублёў,

замежнай бязвыплатнай дапамогі, паведаміла начальнік упраўлення сацыяльнай падтрымкі насельніцтва і стацыянарных устаноў камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне аблвыканкама Вера Астапенка.

Так, Міжнароднае дабрачыннае грамадскае аб'яднанне "Сафія" забяспечае тэрытарыяльныя цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва сродкамі рэабілітацыі розных відаў, у тым ліку інвалíднымі крэсламі. Сумесна з ТЦСАН Гарадоцкага раёна ў 2015 годзе рэалізаваны гуманітарны праект на суму больш 72 млн рублёў.

Апроч таго, на 5 гадоў заключаны дагавор з Міжнародным грамадскім аб'яднанне «Дапамажы людзям» (Нідэрланды), з дапамогай якога для аддзялення круглясутачнага знаходжання Шумілінскага раёна пабудавана пральня (28 тыс. Еўра). Яны ж рэалізуюць сельскагаспадарчыя праекты на базе двух сацыяльных устаноў вобласці, забяспечваючы неабходнай прадукцыяй, метадычнай літаратурай, ажыццяўляючы кансультаванне і кантроль.

**Ян Вайтовіч**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ПАЛІТЫЧНАЯ КАМПАНІЯ

# АД СЫТАСЦІ ДА АБАРОНЕНАСЦІ

**Перадвыбарная праграма галоўнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду — істотная заяўка на правы і далей несці крыштальны сасуд. Перад намі «карціна алеем», для стварэння якой аўтарам хапіла дзвюх фарбаў — чорнай і белай.**

Пачну з размовы з жонкай перад сном:

— Якія навіны?

— Апублікаваныя вынікі апытання Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра (ІАЦ).

— І што?

— Аказваецца, ты ўсім задаволеная.

— Ваў!

Зразумець здзіўленне маёй жонкі нескладана. Пяць гадоў таму напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў яе зарплата (настаўніцы сярэдняй школы) перавысіла 500 долараў. Сёння пры той жа нагрузцы яна не дацягвае ў эквіваленце і да 300 «зялёных». Такі вынік чацвёртай пяцігодкі для асобна ўзятай прафесійнай групы.

У лістападзе 2010 года 77,5% суайчыннікаў былі ўпэўненыя, што Беларусь пад кіраўніцтвам адзінага палітыка (АП) развіваецца ў правільным кірунку. За пяць гадоў гэты паказчык не змяніўся. Стабільнасць, аднак. Такой стабільнасць уяўляюць сацыёлагі ІАЦ, калі на яе глядзець з вокнаў кабінетаў на праспекце Пераможцаў.

Здольнасць рэагаваць на змены навакольнага асяроддзя — фундаментальная ўласцівасць жывых арганізмаў. Але, калі меркаваць па прыведзенай сацыялогіі, сярэднестатыстычны беларус знаходзіцца ў каматозным стане (ад старажытнагрэчаскага «кома» — «глыбокі сон» — стан паміж жыццём і смерцю, які характарызуецца стратай свядомасці, рэзкім паслабленнем або адсутнасцю рэакцыі на знешнія раздражненні.

**Змена вехаў**

Працытую фрагмент з папярэдняй «Азбукі паліталогіі» («Хто вычарпаў ліміт рэвалюцый?», 11 верасня, №34): «З пэўнага моманту для кожнай аўтарытарнай дзяржавы палітычная павестка пачынае канцэнтравацца на ўтрыманні ўлады. А гэта азначае, што жыць яна пачынае пад дыктоўку надыходзячай рэвалюцыі. Прадухіленне рэвалюцыі становіцца адзіным пунктам праграмы кіруючага класа. Тут ужо не да развіцця».

Не ўпэўнены, што мяне чытаюць у Адміністрацыі АП, але актуальнасць майго выказвання там прызнаюць, што і пацвярджае перадвыбарная праграма кандыдата на пяты прэзідэнцкі тэрмін. Яна апублікаваная 17 верасня. Адкрыем яе.

Перад намі «карціна алеем», для стварэння якой аўтарам хапіла дзвюх фарбаў — чорнай і белай. Дзве фарбы сімвалізуюць два магчымыя шляхі развіцця Беларусі: «Адзін шлях наперад — да захавання стабільнасці і парадку, свабоды і незалежнасці. Гэта шлях адзінства і згоды, развіцця і прагрэсу. Гэта шлях міру і стварэння. Іншы шлях назад — да смуты і хаосу «дзевяностых», бандыцкага капіталізму і дзяльбы ўласнасці, да паслаблення дзяржавы і страты незалежнасці. Гэта шлях рэвалюцыі, крыві і вайны».

Прадухіленне рэвалюцыі — цэнтральны элемент праграмы АП. Але калі ў 2010 годзе кандыдат на чацвёрты тэрмін у якасці антырэвалюцыйнага сродку (сродку па падтрыманні стабільнасці) прапаноўваў «імклівы рухацца наперад і дасягнуць большага», то сёння на парадку дня стаіць задача «абараніць тое, што ўжо створана».

Такая дыялектыка развіцця аўтарытарнага рэжыму. Яна выразна праглядаецца ў загалоўках праграм адзінага рэальнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду: «Ад захавання — да памнажэння» (2010), «За будучыню незалежнай Беларусі» (2015).

Дзесяць гадоў таму кандыдат на трэці тэрмін абяцаў давесці якасць жыцця нашых грамадзян да ўзроўню, параўнальнага з заходнееўрапейскім. Пяць гадоў таму ён рэдукаваў сваё абяцанне да набліжэння ўзроўню жыцця ў Беларусі да еўрапейскага. Сёння кандыдат на пяты тэрмін цвёрда абяцае абараніць Айчыну ад любых замахаў.

Несці на працягу двух дзесяцігоддзяў крыштальны сасуд, імя якому Беларусь, — задача не самая простая. Верагоднасць спатыкнуцца рэальная, тым больш, што жадаючых падставіць падножку хапае.

Адсюль змена вехаў. Змена сацыяльнага кантракту. Падтрымліваць лаяльнасць насельніцтва за кошт росту рэальных даходаў беларуская мадэль больш не ў стане. Свой унутраны рэсурс яна цалкам вычарпала яшчэ ў пачатку «нулявых». Далейшы рост даходаў забяспечваўся за кошт датацый з боку «нашай Расіі», нафтавага афшора і крэдыту МВФ.

Новы сацыяльны кантракт прадугледжвае абмен лаяльнасці на выжыванне. Упершыню пра яго ўвядзенне АП абвясціў у сваім навагоднім звароце за некалькі хвілін да надыходу 2015 года. У праграме «За будучыню незалежнай Беларусі» новаму кантракту нададзена цэнтральнае месца.

Абмяжуюся трыма цытатамі: «Нам у Беларусі ўдаецца захаваць мір, мы не чуем стрэлаў і разрываў снарадаў, у нас ёсць магчымасць спакойна працаваць, гадаваць дзяцей і радавацца мірнаму жыццю». «Як першы прэзідэнт незалежнай Беларусі магу цвёрда абяцаць вам: наша краіна ніколі не будзе ўцягнутая ў чужыя войны і канфлікты. І мы заўсёды абаронім Айчыну ад любых замахаў». «ЗАХАВАЦЬ У КРАІНЕ МІР І ПАРАДАК — у гэтым я бачу сваю другую найважнейшую задачу».

**Усім і бескарысліва**

Любая мабілізацыйная кампанія, хто б і з якой мэтай яе ні праводзіў, вядзе да палярызацыі грамадства. У расколатым жа беларускім грамадстве эфект палярызацыі праяўляецца асабліва відавочна. Таму мэтанакіраваныя намаганні дзяржаўнай прапаганды па мабілізацыі патэнцыйных прыхільнікаў АП аўтаматычна вядуць і да мабілізацыі яго праціўнікаў.

З эфектам палярызацыі звязаны адносны поспех апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах. Калі ўзровень электаральнай падтрымкі АП на выбарах адпавядае яго рэйтынгу даверу, то для апазіцыйных кандыдатаў ён, як правіла, у два разы вышэйшы (паводле дадзеных НІСЭПД).

Гэта перавышэнне забяспечваецца за кошт так званага пратэстнага галасавання. Але адна справа — згаджацца на негатыўны пабочны эфект мабілізацыі ва ўмовах ранейшага сацыяльнага кантракту («Лаяльнасць у абмен на рост даходаў») і зусім іншае — ва ўмовах цяперашняга («Лаяльнасць у абмен на выжыванне»).

У 1994 годзе Лукашэнка быў галоўным рэсурсам сваёй выбарчай кампаніі. Сёння, калі меркаваць па публічнай інфармацыйнай прасторы, ён фактычна хаваецца ад сваіх патэнцыйных выбаршчыкаў.

Роля галоўнага ньюсмейкера Беларусі ўскладзена на старшыню Цэнтрвыбаркама Лідзію Ярмошыну. У гэтую ролю яна выдатна ўжылася, і нават вялікі Станіслаўскі не змог бы вымавіць сваё сакраментальнае: «Не веру!»

Я рэгулярна прагледаю сайт самай салíднай беларускай газеты. Прывяду некалькі загалоўкаў навінавых матэрыялаў: «Ярмошына цалкам давярае выбарчым камісіям» (16.09); «Ярмошына лічыць, што ў Беларусі не варта спяшацца з пераходам на дыстанцыйнае галасаванне» (16.09); «Ярмошына: Беларусь не баіцца эксіт-полаў» (16.09); «Ярмошына: На тэледэбатах кандыдатам трэба трымацца бойка і кампетэнтна» (11.09).

З апошняга загалоўка вынікае, што інтарэсы гэтай выдатнай жанчыны не абмяжоўваюцца прафесійнай сферай. Яна прэтэндуе і на лаўры галоўнага беларускага спецыяліста ў галіне фармавання палітычнага іміджу. Прычым свае парады старшыня Цэнтрвыбаркама раздае бескарысліва, незалежна ад палітычнай арыентацыі кандыдатаў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**




ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЗАЧЕМ ВЫ МОЛОКО РАЗБАВЛЯЕТЕ?

**Смех в зале среди участников форума регионов России и Беларуси, который прошел в Сочи 18 сентября, вызвал диалог Александра Лукашенко и Владимира Путина по поводу натуральности белорусского молока.**

Президент Беларуси решил заочно ответить на упреки в свой адрес со стороны президента Казахстана.

Недавно Нурсултан Назарбаев на форуме приграничного сотрудничества России и Казахстана пожаловался Путину, что Лукашенко «шпарит туда порошок этот, порошок разбавляется и продается. Это совсем не цельное молоко, это молочный напиток, он на Западе таким и считается, а продается по таким же ценам, по которым продается наше молоко».

Лукашенко, воспользовавшись случаем, с трибуны форума в Сочи попробовал дать достойный ответ своему казахстанскому коллеге, но не без помощи Путина нарвался лишь на дружный смех в зале.

«— К сожалению, у нас не всё получается в Евразийском экономическом союзе. И вы это, наверное, чувствуете. Я вот прочитал выступление нашего дорогого друга Нурсултана Абишевича по поводу его озабоченности каким-то ненатуральным молоком или еще чего-то тут… Я просто не хочу… — замялся Лукашенко.

— Он рассчитывал на вашу реакцию. И добился своего. Он своего добился, — вставил Путин.

— Во-первых, мы живем в рыночных условиях. И самый продвинутый рыночник среди нас, вы это видите и по программам, — Нурсултан Абишевич. Покупают в Казахстане молоко такое, ну туда и везут его. Не покупают — не повезли бы! Это во-первых, — продолжил Лукашенко.

Во-вторых, нет такого термина «натуральное молоко». Все прекрасно понимают, что и Россия, и Беларусь взаимно сушат это молоко, удаляют воду. И когда пик молока падает, когда его не хватает, Россия заказывает в Беларуси, мы часто покупаем в России это молоко, разбавляем его, то есть добавляя воду, и получается нормализованное молоко.

— Но это же не пиво! Зачем вы разбавляете молоко? — удивился Путин под громкий смех в зале.

— Не услышал, — вполголоса обратился Лукашенко к Путину.

— Это не пиво. Зачем вы молоко-то разбавляете, — повторил Путин под продолжающийся смех.

— Да, — несколько смутился Лукашенко, но быстро собрался. — Поэтому если рассуждаешь на какую-то тему и проблему, надо глубже в ней разбираться. А то, что он говорит о напитке каком-то молочном, так это если сок добавляешь туда. Тогда это напиток. Вот в западной Европе, кстати, это есть. И эта не имеет тема никакого отношения к тому, что у нас происходит в Евразийском экономическом союзе. У нас гораздо есть серьезнее проблемы».

**Читать полностью и смотреть видео здесь: http://naviny.by**

СТАРТ КАНДЫДАТА

# ПРА КАТЭДЖ ГАЙДУКЕВІЧА І МЭХАНІЗМ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗДРАДЫ

**У рэпартажы Эўрарадыё з катэджу Гайдукевіча той прызнаецца журналісту Зьмтру Лукашуку, што набыў участак з домам у 93-м годзе за 22 тыс. даляраў.**

«На маю заўвагу, што 22 тысячы даляраў у 1993 годзе былі вялізнай сумай, — піша Лукашук, — спакойна адказвае, што «ў тыя часы адзін шапік прыносіў за дзень тысячы тры прыбытку, ня тое што цяпер, таму не такая гэта і вялікая сума».

І сапраўды — 22 тысячы даляраў у 1993 годзе не былі ні вялікай, ні нават вялізнай сумай. У той час яны былі сумай калясальнай.

Калі я падзяліўся сваімі сумненьнямі ў фэйсбуку, атрымаў камэнтар: «Поўнасцю з вамі згодны, бо ў мяне быў заробак 23 $ й працаваў я на „Інтэграле“ інжынэрам, а заробкі там былі не на апошнім месцы й сума ў 22 000 $ выглядала касьмічнаю».

У лістападзе 1992-га ў знак пратэсту супраць забароны Вярхоўным Саветам ініцыяванага БНФ рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах я сышоў з пасады сакратара парлямэнцкай камісіі па СМІ і правах чалавека (першая добраахвотная палітычная адстаўка ў новай Беларусі). На той момант мая зарплата была аж 40 даляраў. Пасада сакратара камісіі па зарплаце прыраўноўвалася да міністэрскай, такім чынам, у міністра былі тыя ж 40 даляраў. Потым заробак крыху паднялі, але не нашмат — у тым жа 1993 старшыня ВС Шушкевіч атрымліваў у эквіваленце 80 даляраў, старшыня Саўміну Кебіч — афіцыйна — крыху меней.

У 1993 годзе Гайдукевіч працаваў в.а начальніка Упраўленьня пры Савеце Міністраў па сацыяльнай абароне вайскоўцаў, асобаў шараговага і кіроўнага складу органаў унутраных спраў, вайскоўцаў-інтэрнацыяналістаў, звольненых у запас у (адстаўку) і членаў іх сем'яў. Пасада прыраўноўвалася, у лепшым выпадку, да намесьніка міністра. (У дужках заўважу, што гэта афіцыйная пасада, рэальна ж Гайдукевіч узначальваў пракебічаўскае «Народное движение Беларуси», якое былостворана для супрацьстаяньня з БНФ і выступала за аб'яднаньне Беларусі і Расеі. Шматлікія выступы Гайдукевіча ў дзяржаўных СМІ вызначаліся агрэсіўным непрыманьнем Незалежнасьці, нацыянальнага Адраджэньня, беларускай мовы, дэмакратычных каштоўнасьцяў).

Натуральна, зарплата в.а. начальніка ўпраўленьня пры Савеце Міністраў ніяк не магла быць большай за заробак старшыні Савету Міністраў.

Дарэчы, ніякі шапік у 1993 годзе пры сярэднім заробку ў 20 даляраў не «прыносіў за дзень тысячы 3 прыбытку». Да нас пастаянна зьвярталіся прадпрымальнікі са скаргамі на бюракратычны ціск, таму я магу ўявіць іх даход — добра калі ён быў у паўтысячы тых даляраў за месяц. Увогуле, ці разумее Гайдукевіч, пра што сьведчаць ягоныя словы пра шапікі? Дзяржчыноўнікам было забаронена займацца камэрцыйнай дзейнасьцю.

Канешне, шапікі тут ні пры чым.

А вось удзел у «карупцыйных схемах» — рээкспарце нафты, каляровых мэталаў і г.д. — даваў сапраўды гіганцкі прыбытак. За ўсё — і асабліва за ліцэнзіі на рээкспарт — браўся хабар, і немалы.

Памятаю, неяк я прывёў да аднаго з намесьнікаў Кебіча старшыню Чыгуначнага райвыканкаму Віцебска (там была мая выбарчая акруга, а дэпутатаў ВС прапускалі без чаргі), каб «выбіць» каналізацыйныя трубы. Пытаньне вырашылася за тры хвіліны. «Ты ведаеш, колькі бізнэсоўцы плацяць за уваход у такія кабінэты? — спытаў мяне старшыня райвыканкаму. — Стаўка пачынаецца ад трох тысяч даляраў».

Гэта Васілю Быкаву Лявон Баршчэўскі завозіў мех бульбы, бо не хапала пэнсіі, гэта Зянон Пазьняк атрымліваў 20 даляраў ў сваім інстытуце гісторыі Акадэміі Навук і на сэсію ВС езьдзіў на тралейбусе, а чынавенства актыўна скалачвала падмурак цяперашніх холдынгаў і карпарацый.

Ну а тыя, хто не належаў да чынавенства, мусілі даваць хабар. Ідавалі — пачытайце прызнаньні цяперашніх «генэралаў бізнэсу», якім ў 90-х было 20-30 гадоў. Давалі хабар і тым самым, так ці інакш, умацоўвалі карупцыйную сыстэму, якая не дазволіла Беларусі стаць на дэмакратычны, эўрапейскі шлях. І якая, зь невялікімі пэрсанальнымі пeратурбацыямі, у 1994 перайшла пад Лукашэнку. І калі на першых (і адзіных сапраўдных) прэзыдэнцкіх выбарах 94 году Масква бачыла ў Лукашэнку праваднікa сваіх інтарэсаў (больш энэргічнага, чым Кебіч), дык намэнклятура імгненна разгледзела ў ім абаронцу сваіх капіталаў (ну, зь невялікім пераразьмеркаваньнем з улікам прыходу новых людзей). Не памыліліся ні першыя, ні другія. Цяпер Маскве можна не турбавацца адносна разьмяшчэньня чарговай ваеннай базы. І калі пры Кебічу вяршыняй мары чыноўніка лічыўся асабняк за 22 тысячы даляраў, дык цяпер вымяраюць мільёнамі (а асабліва «набліжаныя» — мільярдамі).

Тут інтарэсы Масквы і праўладнага бізнэсу сышліся. Спалучаюцца яны і цяпер: гэтак званы вялікі бізнэс ня толькі пралукашэнкаўскі, але і — прарасейскі.

Зрэшты, пра гэты мэханізм нацыянальнай здрады Беларускі Народны Фронт казаў і тады.

«Дамінуючым стаў працэс пераразьмеркаваньня дзяржаўнай уласнасьці і фінансаў у прыватную ўласнасьць намэнклятуры. Для гэтага адпаведным чынам напісаны законы, прыняты шэраг падзаконных актаў, якія адчынілі дарогу неправаваму, але «законнаму» рабаўніцтву дзяржаўнай маёмасьці, хабарніцтву і карупцыі. Усё гэта адначасна зь безаглядкай палітыкай стрымліваньня і недапушчэньня рынкавых рэформаў... прывяло да стварэньня на Беларусі асноваў намэнклятурна-мафіёзнай дзяржавы з тыповай для яе канцэнтрацыяй багацьцяў у руках вузкага кола каляўладных асобаў, манапалізмам і імкненьнем да таталітарных формаў дзяржаўнага кіраваньня, што выявілася ў плянах стварэньня «прэзыдэнцкай дыктатуры».

Гэта цытата з прамовы старшыні БНФ Зянона Пазьняка на III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі. 6 ліпеня, той самы 1993 год.

**Сяргей Навумчык**

ГЕОСТРАТЕГИЯ РОССИИ

# БУДЕТ ЛИ УКРАИНСКАЯ КАША В БЕЛАРУСИ?

**Оккупирует ли Россия Беларусь в ближайшие месяцы? На фоне скучного предвыборного сюжета (называть других кандидатов конкурентами Александра Лукашенко язык не повернется) эта алармистская тема выглядит для СМИ находкой.**

Заявления национальной оппозиции об агрессивности соседней империи, только и мечтающей поглотить Беларусь, многими воспринимаются уже как ритуальные заклинания. Из них сенсацию не сварганишь.

Но на сей раз благодатную для политических спекуляций тему вторжения с востока актуализировал доклад «Новая геостратегия России: последствия и вызовы для архитектуры международной безопасности», подготовленный Юрием Цариком и Арсением Сивицким из минского Центра стратегических и внешнеполитических исследований. Эта структура в экспертном сообществе имеет репутацию близкой к властям.

Не поддержать Лукашенко — приедет на танке Путин?

Фишка доклада — тезис о высокой вероятности «военно-политической дестабилизации Республики Беларусь в течение ближайших трех-шести месяцев».

Тупиковая ситуация в Украине, при том что Минск намерен твердо придерживаться нейтральной и миротворческой позиции в этом конфликте, нормализовать отношения с ЕС и США, а также ряд других факторов подталкивают Москву, как считают авторы доклада, «к повторению украинского сценария» в нашей стране.

Толчком для ввода войск, согласно этой версии, может стать отказ белорусского руководства разместить здесь российскую авиабазу.

В ряде интервью эти же политологи поясняют, какой именно сценарий может применить Москва, учитывая проведение в Беларуси президентских выборов. Мол, сначала здесь замутят некое подобие майдана, причем якобы инспирированного Западом, а потом, когда возникнет конституционный кризис, просто введут свои войска — надо же спасать братскую республику.

Пикантность трактовки в том, что и большая часть белорусской оппозиции, в частности сторонники бойкота выборов, проведения уличных акций, предстают в этой обрисовке вольными или невольными пособниками Кремля.

Главный же месседж доклада адресован, пожалуй, Евросоюзу и США. Подтекст читается так: лучше уж поддержать Лукашенко, иначе здесь будет Путин.

**Оккупация маловероятна, деградация уже идет**

Что и говорить, Крымом да Донбассом Россия заработала репутацию безбашенного, отвязанного мирового игрока. Это вдобавок к не самому лестному бэкграунду СССР и Российской империи.

И все же наложить украинский сценарий на Беларусь для российских стратегов (предположим, они это прокручивают) проблематично по ряду причин.

Во-первых, да, по горло хватает и Украины. Владимир Путин хоть и любит выглядеть «ненаклоняемым», как и Лукашенко, но тягаться с мощью западного мира, обложившего санкциями, нереально. Надо аккуратно сдавать назад.

Во-вторых, демонизировать белорусов в массовом сознании россиян так же, как это сделали с образом украинцев, будет, пожалуй, гораздо сложнее.

В-третьих, осмелюсь предположить, что Лукашенко при всем его норове по большому счету устраивает Кремль. При всех капризах он для московской верхушки — свой, в том числе и ментально, по духу.

Любая же марионетка, которую Кремль захотел бы здесь поставить, может в некий момент выйти из-под контроля. Да и попробуй еще поставь. Лукашенко держит страну под колпаком. Все просвечивается жестким рентгеном. Смешно думать, что спецслужбы проморгали бы подготовку неких сотен боевиков для местного майдана, о чем пишут иные российские ресурсы.

Да, белорусскую ситуацию можно пустить вразнос, если приложиться со всей дури. Но тогда процесс способен выйти также из-под контроля тех, кто этот большой бемц затеял. Не факт, что в итоге Москва получит лояльный ей режим.

Нет, ну зачем головная боль на ровном (или почти ровном) месте? Руководство нынешнего белорусского режима хотя и лавирует, пытается расширить свободу геополитического маневра, но к геополитической измене не способно в принципе по целому ряду причин, которым можно посвятить отдельную статью.

Да, в перспективе при стечении целого ряда неблагоприятных для Беларуси обстоятельств аншлюс не исключен. Но куда более реальной является перспектива многолетней деградации нашей страны в тени слабеющей постимперии. Эта деградация уже идет.

**Так кто пустил сюда «русский мир»?**

Возвращаясь же к докладу Царика и Сивицкого, стоит выделить такой тезис: «Важным аргументом в пользу организации смены режима в Беларуси для российского руководства является то огромное влияние, которое Россия имеет на специальные службы, государственный аппарат, директорат государственных предприятий, информационное пространство и экономику Беларуси».

В этом плане белорусский официальный лидер, при всей своей жесткой авторитарности, действительно очень уязвим. Его многолетняя ориентация на Москву, желание угодить Кремлю для получения субсидий привели к дальнейшей (начало положили царизм и большевизм) русификации всех сфер жизни, торможению национального самосознания белорусов.

Фактически сам Лукашенко «диким креном» (его собственное признание) своей политики на восток создал в Беларуси тепличные условия для тихой экспансии «русского мира».

И как бы ни холодили теперь спину высшего белорусского начальства угрозы со стороны Кремля, попробуй разорви его тщательно сплетенную паутину.

Чтобы обеспечить реальные гарантии независимости Беларуси, здесь нужно менять всю систему. Но кто на это способен?

*(скарочана)*

**Александр Класковский**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шуміліскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 29.09.2015 у 18.55**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна добраахвотнікамі.